

№ 19 (132)
Май 2006 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:

- **Ініцыятыва: давайце створым Музей Песні** – *стар. 2*
- **Царкоўнае краязнаўства: слуцкія пратэстанты** – *стар. 4*
- **Асоба: эрудыт, кампанеец, энцыклапедыст Барыс Сачанка** – *стар. 6*

## Пра нашу «Краязнаўчую»

*Жыццё ёсць жыццё, «Краязнаўчай» – ужо тры гады. Зразумела, гэта – зусім невялікі тэрмін, але і за такі час можна зрабіць нямала.*

*Нам вельмі радасна, што менавіта так прагучала зусім нядаўна ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь з прыязнага слова дырэктара Зінаіды Кучар.*

*На сяброўскую вечарыну сабраліся свядомыя і шчырыя энтузіясты краязнаўства. Галоўны рэдактар і намеснік галоўнага рэдактара «Краязнаўчай газеты» Ул. Гілеп і Г. Далідовіч давалі ў пэўным сэнсе справаздачу і заклікалі зацікаўленых прысутных далучыцца да размовы, падтрымаць, а таксама многае падказаць, што і як рабіць далей, а таксама прасілі і за штосьці недагледжанае пакрытыкаваць. Крытыка – для кожнага непрыемная рэч, але яна і вылечвальная.*

*Вядомыя пісьменнікі В. Іпатава і Я. Міклашэўскі (дарэчы, Яўген – адзін з першых аўтараў «Краязнаўчай»), празаік і публіцыст, сябра рэдкалегіі А. Бутэвіч, археолаг (ён жа аўтар і выканаўца песень) П. Русаў, вядомы краязнавец і настаўнік з Мёраў В. Ермалёнак і іншыя, сапраўды, заклапочана гаварылі пра вельмі неабходныя рэчы, датычныя не толькі «Краязнаўчай газеты», але і ўсёй Беларусі.*

*Сябры-краязнаўцы з усіх куточкаў Беларусі! Нам, паверце, было вельмі радасна, што «Краязнаўчую газету», прыехаў вітаць вялікі гурт краязнаўцаў, настаўнікаў, музыкантаў, спевакоў, вучняў з Лунінца, якіх цёпла і хораша прадстаўляла вядомы журналіст і краязнаўца Таццяна Канапацкая.*

*Жыцьмем!*



*Нашы веды ніколі не могуць мець заканчэння менавіта таму, што прадмет спазнання бясконцы.*

*Блез Паскаль*



## Баль пад паланезы, альбо Тры шчаслівыя гады

***Красавік – гэта не толькі макаўка вясны, але і месяц святкавання дзён нараджэнння, юбілеяў і яшчэ шмат розных святаў, цікавых і вясёлых, накшталт першага красавіка. Менавіта ў гэтым месяцы 3 гады таму на базе універсітэта культуры пачаў сваю дзейнасць краязнаўчы гурток «Этна», які паспяхова ўзначальвае Павел Каралёў.***

На першую сустрэчу ў 2003 годзе прыйшло каля трыццаці чалавек. Згадзіцеся, што не мала. Зараз гурток налічвае болей ста ўдзельнікаў, хоць пастаянна наведваюць і з дня ў дзень жывуць яго поспехамі і праблемамі прыкладна сорак пяць студэнтаў.

«Этна» – заўзяты аматар розных краязнаўчых вандровак, паездак за мяжу, а таксама вялікі ахвотнік гарбаты. Нават спецыяльна з гэтай нагоды створаны «Клуб любіцеляў гарбаты», дзе падчас пасяджэнняў маладыя краязнаўцы сустракаюцца з цікавымі і такімі ж захопленнымі людзьмі. А краязнаўцы, сапраўды, юныя, ды яшчэ і вельмі разумныя: студэнты амаль усіх ВНУ Мінска, за выключэннем БАТУ і медуніверсітэта, ад 16 да 33 гадоў. Але вандроўкамі і гарбатай справы не заканчваюцца. «Этна» дапамагае надаваць высакароднасць паркам, лясам, а таксама займаецца кансервацыяй Крэўскага замка.

Дык чаму ж усё-такі «Этна»? У слоўніку Даля слова «этна» азначае першую частку складанага слова, у сваю чаргу слова «этнас» – гэта агульная назва нацыі, народа. Адпаведна, студэнты вырашылі, што гэта найбольш яркае і правільнае імя будучага «дзіцяці». Сімвал гуртка – шкарпэтка, што падкрэслівае маладосць і разам з ёй гарэзнасць.

А зараз – галоўнае.

Сёлетняя субота. Пятнаццатага красавіка. Некалькі дзесяткаў чалавек у вельмі прыгожым адзенні. Яны сабраліся, каб адзначыць, у нейкай меры, сваё трохгоддзе. Чакаюць пачатку маленькага, але вялікага свята. І яно абяцае быць незвычайным. Дык як тут можа быць штосьці звычайнае, калі маладыя сабраліся не дзе-небудзь, а ў самой сядзібе Агінскага!

Як заўсёды бывае, спачатку падводзілі вынікі працы трох гадоў, вызначалі лепшых з лепшых, энтузіястаў і даследчыкаў, казалі словы ўдзячнасці і віншавалі адзін аднаго. А пасля – баль!.. Ён быў як у казцы. Люстра замяніла мноства свечак, расстаўленых па сядзібе. А музыка!.. Што датычыцца музыкі, то, безумоўна, гучалі паланезы. Вось такі рамантычны і чароўны вечар сама сабе здолела наладзіць моладзь.

Раніцай наступнага дня (а начавалі ў Залескай школе) краязнаўцы ўзяліся за звыклую для сябе работу: пачалі прыбіраць парк. Праўду кажуць, што чалавек, які любіць працаваць і дапамагаць іншаму, заўсёды працуе з задавальненнем. Ды і шаснаццатае красавіка запомнілася студэнтам як адзін яркі і непаўторны дзень. Вось калі, напрыклад, вы пускалі караблікі па рачулцы? Напэўна, большасць з вас (ды і я не выключэнне) не памятаюць. А «Этна» пускала караблікі, белыя. І кожны з іх браў разам з сабой у далёкае плаванне мару, якая абавязкова павінна здзейсніцца.

Вось так і час ляціць... Тры гады, а толькі нядаўна пачыналі рабіць першыя пошукавыя крокі. Зараз «Этна» ідзе наперад рашуча і ўпэўнена. Ведае, чаго хоча, а самае галоўнае, што ведае, як гэта здзейсніць.

Вельмі хочацца яшчэ раз павіншаваць краязнаўчы гурток «Этна» з трохгоддзем і пажадаць яму здароўя, добрага настрою, новых ідэй і поспехаў, шмат сяброў і аднадумцаў! Са святам, аматары працы, вандровак і гарбаты!

*Ірына ЗАЯЦ, студэнтка журфака БДУ*

**Ад рэдакцыі.** ***Мы – аднагодкі «Этны». Далучаемся да ўсяго, што сказала Ірына Заяц, толькі дадамо: натхнёна далей, наперад! У прафесіяналы краязнаўчай справы!***



## Увага этнавыхаванню дзяцей

### Насустрач 4-му фальклорнаму фестывалю «Берагіня»

***Міністэрствы культуры і адукацыі Рэспублікі Беларусь, Гомельскі абласны выканаўчы камітэт, Акцябрскі раённы выканаўчы камітэт, грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры» і Беларускі дзяржаўны інстытут праблем культуры 19–20 красавіка 2006 года ў г.п. Акцябрскі правялі III Рэспубліканскую навукова-практычную канферэнцыю «Традыцыйная культура і дзеці: праблемы этнавыхавання».***

Гомельшчына для правядзення гэтай канферэнцыі была абрана невыпадкова. «Гомельшчына, – сказала ва ўступным слове прадстаўнік Гомельскага абласнога выканаўчага камітэта Э.А. Хлыстунова, – мае глыбокія і моцныя карані народнай традыцыйнай культуры Усходнягя Палесся. Адпаведна, работнікі культуры ўлічваюць гэта: толькі за апошні час правялі агляд-конкурс дамоў і цэнтраў фальклору, народных традыцый, народнай творчасці, рамёстваў «Адраджэнне і творчае развіццё нацыянальнай спадчыны», даследаванні «Шляхі зберажэння і адраджэння традыцыйнай народнай культуры Гомельшчыны» і «Традыцыі ў сучасным вяселлі беларусаў», навукова-даследчую экспедыцыю па тэме «Традыцыйная мастацкая культура беларусаў Гомельшчыны». А таксама праводзіліся абласны конкурс выканаўцаў пабытавага танца, абласное свята фальклору і рамёстваў, у якіх прынялі ўдзел каля 500 носьбітаў і аматараў беларускай духоўнай і матэрыяльнай культуры. Вялікая ўвага ўдзяляецца далучэнню дзяцей да традыцыйнай культуры, да этнавыхавання».

У канферэнцыі прыняло ўдзел каля 100 навукоўцаў і выкладчыкаў розных навучальных установ, настаўнікаў, метадыстаў, бібліятэкараў, грамадскіх дзеячаў і інш. Аўтар і кіраўнік праекта – старшы навуковы супрацоўнік БДІПК М.А. Козенка.

На пленарным пасяджэнні «Праблема адраджэння і захавання народнай культуры» з цікавымі дакладамі выступілі навукоўцы, выкладчыкі мінскіх ВНУ Ул.М. Конан, А.Ул. Рагуля, Г.А. Барвенава і іншыя.

Затым праца канферэнцыі працягнулася ў чатырох секцыях: «Народная педагогіка і сучасны адукацыйна-выхаваўчы працэс», «Дзейнасць фальклорных калектываў. Рэгіянальны вопыт», «Народная спадчына Бацькаўшчыны вачыма дзяцей і падлеткаў» і «Экспедыцыйныя адкрыцці. Праблемы празаічных жанраў». Выступілі зацікаўленыя даследчыкі па тэме канферэнцыі з розных рэгіёнаў нашай краіны.

На другі дзень праца секцый прадоўжылася. Пасля па выніках работы секцый быў праведзены круглы стол «Адукацыйная школа – перспектывы этнічнага выхавання». На працягу работы канферэнцыі былі разгорнуты выстаўка метадычнай літаратуры, выстаўка-продаж твораў дэкаратыўна-побытавага мастацтва.

«Краязнаўчая газета» па меры падрыхтоўкі матэрыялаў канферэнцыі да выдання асобнай брашурай будзе знаёміць чытачоў з найбольш цікавымі выступленнямі. Цяпер змяшчаем тэкст прамовы старшыні ГА «Беларускі фонд культуры», галоўнага рэдактара нашага выдання Ул.А. Гілепа. У наступны нумар да друку рыхтуецца даклад вучаніцы 9 «Г» класа сацыяльна-педагагічнага праекта «Этнашкола» Вілейскай гімназіі № 2 Ксеніі Конанавай.

## Быць Музею песні!

### (Слова на развітанне гаспадарам і ўдзельнікам III Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Традыцыйная культура і дзеці» у г.п. Акцябсркі Гомельскай вобласці)

*Некалі я прымаў удзел у адкрыцці вашага музея. Азнаёміўся з накірункам будучай экспазіцыі і новага музея. Добра, што не забываеце яшчэ на такую даўнюю гісторыю, як Рудабелка, Айчынная вайна. Але чамусьці за апошнія 60 гадоў мы асноўную ўвагу выхавання патрыётаў скіроўваем толькі на вайну (маўляў, чым больш крыві – тым мацней патрыятызм).*

*Чалавек жа з'явіўся і захоўвае сваё жыццё не для таго, каб ваяваць. Ён нават ваюючы імкнецца да захавання свайго ўласнага жыцця дзеля таго, каб працягнуць свой род, даць жыццё дзецям, унукам. Усім нам знаёмая прыказка: «Дай Бог, каб толькі не вайна». А самі выхоўваем ваяўнічых патрыётаў.*

*Таму я асабіста не падтрымліваю выбраны ў г.п. Акцябрскім накірунак тэматыкі музея партызанскай славы. Гэты эпізод існавання раёна даўно ў мінулым і ён добра зафіксаваны ў кнізе «Памяць». Аб гэтым можа гаварыць і створаная асобна невялікая музейная экспазіцыя (бо вялікую ўжо і стварыць проста немагчыма). Зноў жа, вы пачнеце выхоўваць наступныя пакаленні на крыві. «На крыві» звычайна будаваліся храмы, а не музеі. (У нашым выпадку музей-храм, прысвечаны героям.)*

*Прапанова ж мая, як музейнага работніка ў мінулым, такая, і яна падтрыманая некаторымі ўдзельнікамі нашай канферэнцыі: стварыць у новым будынку Музей Песні – першы і непаўторны ў нашай краіне, а, можа, і ў свеце музей народнай (і не толькі) песні. Праз песню і танец паказаць нашага чалавека ад нараджэння да смерці. Жыццёвы шлях яго суправаджаецца словам, музыкай, танцам.*

*А шлях чалавечы складаны: бязвоблачнае дзяцінства пераходзіць у цяжкую працу, праца ж перарываецца вайною, вайна заканчваецца перамогай, а потым... новае нараджэнне. І заўсёды побач песня.*

*Не трэба зараз задаваць мне пытанне: а як можна стварыць такі музей – Музей Песні? Гэта ўжо, як кажуць, справа тэхнічная і прафесійная, музейная.*

*Але, што праўда: ні адзін раён Беларусі не падышоў так блізка да стварэння такога музея, як ваш. Вам і сцяг у рукі.*

*Некалі (гадоў 30 таму) я прапанаваў стварыць такія музеі, як Музей Хлеба, Музей Лёну, Музей Солі. 30 гадоў таму гэта было ўспрынята «ў штыкі». Сёння ўжо існуюць і Музей Хлеба, і Музей Лёну. Пакуль няма Музея Солі. Затое будзе Музей Песні – адзіны на Беларусі, а, можа, і ў свеце!*

***Уладзімір ГІЛЕП***



Liebe Kolleginnen und Kollegen

ich habe grossartige Menschen in Weissrussland kennenlernen dürfen dank der tatkräftigen Unterstützung des Kulturfonds, insbesondere Leonids.

Dafür möchte ich mich ganz herzlich bedanken.

Ich wünsche Ihnen alles Gute und die Freiheit, das schreiben zu können, was Sie schreiben wollen.

Herzliche Grüsse

Remigius Bütler

## Сучасныя беларускія краязнаўцы

### Матэрыялы да слоўніка

**Сокал** Васіль Міхайлавіч (н. 22.10.1921, в. Зубелевічы Ляхавіцкага р-на Брэсцкай вобл.), працаваў настаўнікам. Скончыў Мінскі пединстытут (1956). Настаўнікам у краязнаўстве лічыць У.Р. Скалабана. Вывучае гісторыю падпольных арганізацый КПЗБ і КСМЗБ на тэрыторыі сучасных Ляхавіцкага і Клецкага раёнаў, дзейнасць Клецкай беларускай гімназіі. Аўтар артыкулаў у навукова-папулярным друку. Адзін з аўтараў кніг «Памяць» па Ляхавіцкім і Клецкім раёнах. Лаўрэат журналісцкай прэміі імя А. Майсені 1998 г.



*В. Сокал*

**Спірыдонаў** Міхаіл Фёдаравіч (н. 10.04.1937, г. Бабруйск Магілёўскай вобл.), кандыдат гістарычных навук (1982), старшы навуковы супрацоўнік НАН Беларусі. Скончыў Маскоўскі дзяржаўны універсітэт (1960). Краязначую дзейнасць пачаў у 1962 г., калі працаваў дырэктарам Ашмянскага краязнаўчага музея імя Ф. Багушэвіча. Вывучае гісторыю населеных пунктаў Беларусі XV – XVI стст. Адзін з аўтараў кніг «Памяць» Ляхавіцкага, Лунінецкага, Навагрудскага, Веткаўскага, Мядзельскага, Мінскага, Мёрскага раёнаў. Аўтар карт па гісторыі Беларусі і прац па гістарычнай картаграфіі.

Тв.: Заслаўль в XVI в. Мн., 1998.

*Вачыма сяброў*

## Яму спадабалася Беларусь!

Цёпла, шчыра, па-беларуску сустрэлі на жыткавіцкай зямлі журналіста, пісьменніка са Швейцарыі Рэмігіуса Бютлера. Так пачаўся сумесны праект, які ажыццяўляе грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры» сумесна з Дэпартаментам адукацыі, культуры і спорта швейцарскага кантона Ааргау. А ў гэты ж час у далёкай Швейцарыі сустракалі пісьменніка, галоўнага рэдактара жыткавіцкай раённай газеты «Новае Палессе» Уладзіміра Гаўрыловіча.

Жыткавіцкі раён быў выбраны нездарма. Традыцыйная культура, багатыя фальклорныя традыцыі, жыццё працавітых, улюбёных у свой край палешукоў вабіў нашага госця. Падчас вандроўкі ён занатоўваў уражанні і пачутае, уключаў свой дыктафон, здзіўлена глядзеў на бандарныя вырабы, вышыўку. А яшчэ Рэмігіус навучыўся беларускім танцам і кожны дзень кідаўся ў скокі пад «У сераду бабка», «На рэчаньку», польку «Вясельную». За тыдзень вандроўкі мы ўжо разам спявалі песню:

*Бывайце здаровы,*
*жывіце багата,*
*А мы ад'язджаем дадому,*
*дахаты...*

Кожны дзень нам паказвалі звычайнае жыццё селяніна, яго працу, адпачынак. Уся наша група вельмі ўдзячна кіраўніцтву Жыткавіцкага раёна, старшыні райвыканкама Пятру Мікалаевічу Савіцкаму, яго намесніку Уладзіміру Мікалаевічу Гулюту, загадчыку аддзела культуры Адаму Прохаравічу Купрацэвічу, усім мастацкім, фальклорным ансамблям, супрацоўнікам аддзела культуры, у прыватнасці, Ганне Пятроўне Лой, Таццяне Міхайлаўне, фотакарэспандэнту газеты «Новае Палессе» Вікенцію Рыгоравічу Кіжнёву.

Як вынік такіх творчых сувязяў, выйдзе кніга на трох мовах – беларускай, рускай і нямецкай аб уражаннях беларускага журналіста пра Швейцарыю і швейцарскага – пра Беларусь.

Мы праводзім нашага пачэснага госця, які палюбіў Беларусь, на свае вочы пабачыў прыгожыя краявіды, цудоўных людзей, якія шчыра дапамагалі яму ва ўсім. Рэмігіус падымаецца па трапе самалёта, махае рукою і на развітанне гучыць беларуская мова, песня «Бывайце здаровы...». І мы з Леанідам Бароўскім, намеснікам старшыні ГА «Беларускі фонд культуры», кіраўніком швейцарска-беларускага праекта, падпяваем яму.

***Мікола КОТАЎ,***
***удзельнік вандроўкі***

## *Кароткі слоўнік* краязнаўча-прававой тэрміналогіі *беларускай старажытнасці*



**(Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

**ПОПІСЫ ВОЙСКА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА** – перапісы шляхты, праведзеныя ў XVI ст. Попіс 1528 – дакумент вялікакняжацкай канцылярыі ў Вільні, паіменны спіс шляхты з пазначэннем узброеных коннікаў. Вальны сейм 1528 г. устаноўліваў норму – 1 коннік ад 8 «службаў». У 1529 г. гэтая норма была ўдакладненая – дробная, небагатая шляхта павінна была асабіста прысутнічаць у войску.

Попіс 1528 г., як і пазнейшыя, меў некалькі рэестраў: 5 першых улічвалі найбольш заможных феадалаў і службовых асоб, паноў, князёў, а таксама шляхту, што мела повязь з цэнтральнай уладай. Затым былі лакальныя попісы – па ваяводствах і землях. Асобна быў рэестр 8 татарскіх харугваў. Не было рэестраў Кіеўскай і Браслаўскай земляў. Попіс 1565 г. выкананы «ў полі». У ім апісанне заяўленай коннай шляхты. Адбываўся ў Ракаве і ў суседніх паселішчах з 9 ліпеня да сярэдзіны кастрычніка пры найвышэйшым гетмане ВКЛ М. Радзівіле. Адсутнічаў рэестр па Полацкай зямлі (Полацк быў заняты маскоўскім войскам) і па іншых ваяводствах і землях. Попіс 1567 г. таксама правялі «ў полі», у Чырвоным Сяле з 26 чэрвеня да лютага 1568 г. пры гетмане вялікалітоўскім Р. Хадкевічу. У ім было 7 цэнтральных рэестраў, 24 лакальныя і спіс «татар домовых» ВКЛ. Таксама з-за прычыны ваенных дзеянняў спісы шэрагаў шляхты былі няпоўныя. Норма прадстаўніцтва паводле рашэння Гродзенскага сейма 1567 г. – 1 коннік ад 10 «службаў», дробная шляхта павінна была з'яўляцца асабіста.

У попісе 1528 г. названы імя і імя па бацьку шляхціца, улічана колькасць выстаўленых ім коней, часам іхні маёнтак, пасада або спецыяльны статус. У канцы рэестра падсумоўвалася колькасць коннікаў, выстаўленых пэўным паветам або сацыяльнай групай. У попіс 1565 г. дадаткова пададзены звесткі пра ўзбраенне коннікаў, «драбаў» (пяхоты), а таксама пра колькасць воінаў, выстаўленых звыш нормы – «на ласку короля его милости». Попіс 1567 г. дадаваў найбольш поўныя звесткі пра ўладанні шляхты з указаннем назваў маёнткаў і часам таго, дзе яны знаходзяцца, а таксама з пазначэннем відаў зброі вояў.

Попісы – каштоўная крыніца для даследавання ВКЛ у XVI ст. – пра землеразмеркаванне і ўладальнікаў, рассяленне этна-рэлігійнага складу паноў, тэрытарыяльнага размяшчэння іх уладанняў. Рэестры праясняюць карціну дэмаграфічных працэсаў, спрыяюць падлічыць прыкладную колькасць насельнікаў ВКЛ, у тым ліку і ў межах сучаснай Беларусі. На думку некаторых даследчыкаў (Г. Лаўмянскі), па попісе 1528 г. колькасць шляхты разам з падданымі склала 1 мільён 300 тысяч. Іншыя лічаць, што з улікам адсутных звестак па асобных ваяводствах і землях насельнікаў у тагачасным ВКЛ магло быць не менш за 2,5 мільёна. Попісы яшчэ маюць неацэннае значэнне для гісторыка-геаграфічных ведаў, для вывучэння гісторыі ваеннай справы, матэрыяльнай культуры ВКЛ. Попіс 1528 г. збярогся ў кнігах Метрыкі ВКЛ. Усе попісы надрукаваны С. Пташыцкім у «Русской исторической библиотеке» (т. 33. Пг., 1915).



*Афіцэр пешай гвардыі войска ВКЛ 1792–94 гг. (мал. Ю. Герасімовіча)*

***Уладзімір Мароз нарадзіўся ў 1953 г. у горадзе Косаве Івацэвіцкага раёна. Скончыў архітэктурны факультэт Беларускага палітэхнічнага інстытута (1975), Літаратурны інстытут імя М. Горкага (1983). Працаваў у інстытуце «Мінскпраект», Дзяржкіно БССР, на кінастудыі «Беларусьфільм», намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Бярозка». Аўтар нізкі вершаў «Пяшчотны дотык» у зборніку «Крыло», паэтычных кніг «Голас», «Рэй», «Хутаранская зорка», кнігі эсэ «Мінск старадаўні і малады», «Беларускі храм». Аўтар сцэнарыяў шматлікіх дакументальных фільмаў, звернутых да гісторыі і культуры Беларусі. Фільм «Успамін пра Міколу Равенскага» адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі (1984).***



# Крыж на магіле Баброўскага

Шмат яшчэ ў нашай слаўнай мінуўшчыне імёнаў, шырока невядомых люду паспалітаму. Адно з іх – Міхал Баброўскі, святар, тэолаг, вучоны-славіст, арыенталіст, філосаф. Аб ім няма яшчэ грунтоўнага даследавання, між тым постаць гэтая, што стаіць упоравень з асобаю вялікага першадрукара Францішка Скарыны, заслугоўвае нашай пільнай увагі і ўдзячнай памяці. Ён з кагорты нешматлікіх волатаў, якія стаялі ля вытокаў нацыянальнага адраджэння ў першай палове XIX стагоддзя. Гэта былі глухія часы для Беларусі, калі яна вымушана была адаптавацца да існавання ў Расійскай імперыі. Але якраз у гэтых неспрыяльных варунках Баброўскі стаў сапраўдным нацыяналістам у лепшым сэнсе гэтага слова, прысвяціў сябе захаванню і зберажэнню старажытнай культуры беларусаў і ўсяго славянства.

Нарадзіўся Міхал Баброўскі ў 1784 ці 1785 годзе ў вёсцы Вулька Бельскага ваяводства. Цяпер гэта тэрыторыя Польшчы. Бацька яго быў уніяцкім святаром, паходзіў з даўняга беларускага шляхецкага роду. Вучыўся Міхал у Драгічынскай вучэльні піяраў (манаскі ордэн), потым у Беластоцкай гімназіі. У 1812 годзе скончыў Галоўную духоўную семінарыю пры Віленскім універсітэце, стаў святаром. Ужо юнаком пачаў вывучаць старажытныя славянскія рукапісы і старадрукі ў цэрквах і манастырах. З таго часу вера і навука сталі сэнсам яго жыцця. З 1817 года ажно пяць гадоў ён знаходзіўся ў навуковай камандзіроўцы ў Еўропе. Матэрыялы-справаздачы ішлі ва універсітэт з Аўстрыі, Італіі, Францыі, земляў заходніх і паўднёвых славян, лужыцкіх сербаў. Не дзіўна, што ў 1822 годзе ён выкладае філасофію ў Віленскай альма-матэр як прафесар. Успомнім, што якраз тады ва універсітэце дзейнічалі таварыствы філаматаў, філарэтаў, прамяністых, у якіх удзельнічалі Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Тамаш Зан, Ігнат Дамейка. Пасля раскрыцця тайных арганізацый пацярпелі ўсе – і студэнты, і іх выкладчыкі. Калега Баброўскага Ігнат Даніловіч звольнены з працы, а самога Міхала саслалі, праўда, недалёка – у Жыровіцкі базыльянскі манастыр, дзе ён прабыў два гады.

З 1826 года Міхал Баброўскі зноў выкладае ва універсітэце. Пасля паўстання 1830–1831 гадоў у Польшчы, на Беларусі і Літве універсітэт быў зачынены, Баброўскі высланы са сталіцы Паўночна-Заходняга краю, як называлася тады Беларусь. Ссылка была своеасаблівай – ён атрымлівае прыход у правінцыі, у мястэчку Шарашова каля Белавежскай пушчы. Цяпер гэта Пружанскі раён. Расійскае самаўладдзе не любіла разумных, адукаваных і вольналюбівых людзей, якія хацелі лепшай долі для сваёй Айчыны.

Міхал Баброўскі быў сапраўды выбітнай асобай, знаным навукоўцам. Як і Скарына, Баброўскі дасягнуў вышэйшых навуковых ступеняў, быў доктарам тэалогіі і прафесарам. Гэта вучоны еўрапейскага ўзроўню – ён з'яўляўся членам прэстыжных Археалагічнай акадэміі ў Рыме, парыжскага і лонданскага азіяцкіх навуковых таварыстваў, Таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх пры Маскоўскім універсітэце, камітэта па выпрацоўцы харвацкага правапісу ў Далмацыі.

Баброўскі жыў і працаваў у складаны час, калі Беларусь пасля ціску паланізацыі стала ўсё больш моцна адчуваць націск русіфікацыі. Ён быў прыхільнікам адраджэння самабытнай беларускай культуры, выкарыстання беларускай мовы ў афіцыйным ужытку. Усё жыццё збіраў звесткі пра Францішка Скарыну, нанова адкрыў для беларускай і еўрапейскай навукі гэтае слаўнае імя. Ён адчуў тое сапраўды нацыянальнае, што пакінуў у спадчыну Скарына. Баброўскі меў багатую бібліятэку помнікаў беларускай старадрукаванай літаратуры. Напісаў кнігу «История славянских книгопечатен в Литве», аб якой, хоць і ненадрукаванай, сярод навукоўцаў доўгія гады хадзілі легенды. На жаль, рукапіс за віхурамі часу не захаваўся. Як ніхто да таго часу, ён спрычыніўся да ўзнікнення ў гуманітарных навуках асобнага накірунку – беларусазнаўства. Міхал Баброўскі адкрыў Супрасльскі летапіс, які засведчыў усяму свету, што і на нашых землях было летапісанне. Апублікаваў яго потым Ігнат Даніловіч.

Дарэчы, гэтыя два імёны, Міхала Баброўскага і Ігната Даніловіча, нягледзячы на іх розныя лёсы, звязваюцца для мяне ў адно. Яны былі землякамі, абодва родам з Бельскага павета, амаль равеснікамі, і той, і той – сыны уніяцкіх святароў, абодва скончылі ў 1812 годзе Віленскую альма-матэр і былі там потым прафесарамі, кожны пакінуў пасля сябе яркі след у нашай гісторыі. З поўным правам іх можна назваць аднымі з першых творцаў нашага нацыянальнага адраджэння.

Чаму акурат гэты куток беларускай зямлі (зараз, праўда, ужо Польшча) даў нам такія слаўныя постаці? Згадваецца, што Беласточчына пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе адышла да Прусіі і ў такім статусе існавала да 1807 года. Не было ў невялікі адрэзак часу ні польскага, ні расійскага ўціску. Беларуская мова пачувалася вольна, бо для прусакоў яна была далёкай, незразумелай. Беларускі дух і загартаваў будучых вучоных, пачатковая вучоба і сталенне якіх прыпала якраз на тыя гады.

Такія людзі былі непатрэбныя імперскай Расіі. Міхал Баброўскі апошнія пятнаццаць гадоў быў звычайным святаром, служыў Богу і людзям. Памёр ён у 1848 годзе і пахаваны каля царквы на могілках у амаль ужо родным Шарашове. Стаіць гэтае мястэчка наўзбоч магістральных шляхоў. З цягам часу на драўляным абеліску было ўжо не разабраць, чыя гэта магіла. Толькі старыя жыхары памяталі, што тут ляжыць «нейкі вучоны ці рэвалюцыянер Баброўскі». А ў 1995 годзе, калі царква гарэла, і гэты знак прапаў. Новыя пакаленні жыхароў маглі і забыцца, хто тут пахаваны.

Але так не сталася. Пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік, жонка якога родам з гэтых мясцін, у свой час прачытаў даўнюю кнігу «Статистическое описание Гродненской губернии, составленное офицерами генерального штаба». Аўтарам яе быў пляменнік айца Міхала, генерал Павел Баброўскі. У кнізе мелася дакладнае апісанне месца пахавання. З таго часу ўзнікла думка паставіць на магіле новы памятны крыж. Падтрымала ініцыятыву Таварыства беларускай мовы ў асобе Алега Трусава.

І вось на восеньскія Дзяды задуманае было ажыццёўлена. На Пружаншчыну выехаў сапраўдны дэсант – Уладзімір Ягоўдзік, Алесь Бадак, аўтар гэтых радкоў, а таксама мастак Уладзімір Вішнеўскі, які выштукаваў шыльду на крыж. Часу мы не трацілі. Наладзілі сустрэчы з юнымі чытачамі ў Пружанскай дзіцячай бібліятэцы, у Шарашоўскай сярэдняй школе. Прайшлі яны цікава і запамінальна. Але галоўнай падзеяй ушанавання памяці Міхала Баброўскага стаў чын узвядзення крыжа. Для жыхароў мястэчка гэта выявілася сапраўднай урачыстасцю, сабралася больш двух сотняў чалавек. Сцяжына ад дарогі да храма была выслана хваінкамі і кветкамі. Дзень выдаўся па-восеньску пахмурны. Але калі мясцовы святар айцец Мікалай адслужыў каля магілы памінальную службу і асвяціў узведзены дубовы крыж – з-за хмараў выбліснула сонца і высветліла ўсё месца дзейства. Гэта адназначна ўспрымалася як дабрадаць Гасподняя на святую справу.

Шчырыя словы гаварылі і месцічы, і госці. Апошніх было нямала. Акрамя згаданых пісьменнікаў з Мінска, прыехалі берасцейскія літаратары Мікола Пракаповіч, Алесь Каско, Мікола Папека з Брэста, Мікола Антаноўскі з Пружан, з Жабінкі Анатоль Бензярук. Шмат папрацаваў дзеля высакароднай справы мясцовы краязнаўца і патрыёт Іван Ляшчынскі, які ўзяў на сябе клопат па вырабе крыжа і ўсёй папярэдняй арганізацыі. Вялікі дзякуй яму.

Цяпер душа ў нас спакойная. Ёсць куды прыехаць і аддаць даніну памяці Міхалу Баброўскаму. Яшчэ адзін знак духоўнага абуджэння паўстаў на беларускай зямлі. І чым больш іх будзе, тым больш мецьмем шансаў стаць вольным і гордым народам.

***Уладзімір МАРОЗ***





## Наш каляндар

355 гадоў ураджэнцу Беларусі **ІЛЛІ КАПІЕВІЧУ** (1651–1714), які прыкладна ў адну эпоху разам з А. Белабоцкім (гады нараджэння і смерці невядомыя) працягвалі традыцыі С. Полацкага па ўсебаковым супрацоўніцтве ўсходнеславянскіх культур.

І. Капіевіч, як і А. Белабоцкі, вучыўся ў кальвінісцкай школе ў Слуцку, пазней у сілу абставін быў вывезены ў Расію. Пасля вяртання, пазбягаючы кары нібыта за здраду Рэчы Паспалітай, выехаў за мяжу. З сярэдзіны 1660-х жыў у Галандыі, дзе да ведання беларускай, лацінскай, польскай і рускай моў дадаў пазнанне нямецкай і галандскай. Там ён пазнаёміўся з рускім царом Пятром І, стаў прыхільнікам яго эканамічных і палітычных рэформ і па ягонай просьбе пераклаў і напісаў каля 20 кніг-дапаможнікаў на рускай мове па гісторыі, арыфметыцы, вайсковай і марской справах, розныя граматыкі, слоўнікі і інш. Ён выступаў за шырокую асвету грамадства славянскіх народаў. Прыхільніцтва да пятроўскіх рэформ прывяло яго ў Маскву, дзе працягнуў сваю навукова-асветную працу. Яе высока цаніў сучаснік, выдатны нямецкі мысліцель Г. Лейбніц, які супрацоўнічаў з нашым земляком. У Германіі захавалася іхняя перапіска.



Погляд анёлаў

Да 890-годдзя Слуцка

# Слуцкія пратэстанты

***Магутная хваля Рэфармацыі, якая распаўсюдзілася ў XVI ст. па Заходняй Еўропе, неўзабаве дасягнула і прастораў Вялікага княства Літоўскага. Аднак, у выніку супрацьдзеяння каталіцкай царквы, да канца гэтага стагоддзя пратэстанцкі рух у нашай краіне пайшоў на спад. На гэтым фоне на пачатку XVII ст. нечакана надзейным прытулкам рэфарматаў стаў Слуцк.***

## Апекуны пратэстантаў

Ідэямі Рэфармацыі ў нашай краіне захапляліся ў першую чаргу вярхі грамадства, асабліва пасля таго, як яе прыхільнікам стаў нясвіжскі князь Мікалай Радзівіл Чорны. Аднак яго сын Мікалай Крыштоф Сіротка, выхаваны кальвіністам, перайшоў у каталіцтва і паклапаціўся, каб ад усяго, зробленага бацькам, з дапамогай запрошаных у Нясвіж езуітаў, пазбавіцца. У справах працягу ідэйных пошукаў больш шчаслівы быў паплечнік Мікалая Радзівіла Чорнага, яго стрыечны брат Мікалай Радзівіл Руды. Кальвіністамі і апекунамі пратэстантаў былі ўсе нашчадкі Рудога, у тым ліку і ўнук Януш VI Радзівіл (1579–1620), які пасля смерці жонкі, слуцкай княгіні Сафіі Алелькавіч (1585–1612), стаў уладаром Слуцкага і Капыльскага княстваў. З гэтага часу па волі Януша Радзівіла (а пазней і яго сына Багуслава) Слуцк і з'яўляўся значным рэфармацкім цэнтрам краіны. Ганімыя з іншых месцаў Рэчы Паспалітай, а таксама з замежжа, яны знаходзілі надзейны прытулак у Слуцку і пад аховай магутных Радзівілаў адчувалі сябе тут упэўнена.

## Кальвіністы

Першыя кальвіністы з'явіліся ў Слуцку напрыканцы XVI ст., яшчэ пры апошніх князях Алелькавічах. Спавядалі кальвінізм вярхі слуцкага грамадства – заможная шляхта і інтэлектуалы. Колькасць кальвіністаў не была вялікай, аднак іх дзейнасць прынесла гораду вялікую славу.

Першы кальвінскі храм пабудавалі ў 1617 г. у Новым горадзе на беразе Случы па загадзе князя Януша Радзівіла. Побач заклалі рэфармацкую школу, якая ў 1630 г. атрымала статус гімназіі. Тут, акрамя багаслоўскіх, значную долю займалі агульнаадукацыйныя прадметы, падчас навучання вырашаліся асветніцкія праблемы. Высокі ўзровень адукацыі стаў прычынай вядомасці Слуцкай гімназіі і ў краіне, і за яе межамі; яна прынесла гораду славу цэнтра асветы. Яе дзейнасць назаўсёды засталася яскравай старонкай ў гісторыі педагагічнай справы нашай краіны. Гімназістамі, у адпаведнасці са статутам, маглі стаць практычна ўсе здольныя падлеткі, незалежна ад веравызнання і сацыяльнага паходжання. У 1830-я гг. замест драўлянага быў узведзены мураваны двухпавярховы вучэбны корпус. Гэты будынак захаваўся і цяпер з'яўляецца адным з карпусоў Слуцкай гарадской гімназіі[1].

Слуцкая кальвінская абшчына ўваходзіла ў склад Літоўскай правінцыі, падпарадкоўвалася Віленскаму кальвінскаму сіноду. Слуцкі кальвінскі збор лічыўся кафедральным. У пачатку XIX ст., калі адбылася адміністрацыйная рэформа і з'явіліся рэфармацкія акругі – дыстрыкты, якія ўзначальвалі суперінтэнданты, слуцкі і капыльскі кальвінскія зборы ўвайшлі ў Беларускі дыстрыкт. Слуцк стаў месцам размяшчэння Беларускага суперінтэнданта, які з'яўляўся і пастарам слуцкага збору.

Да XIX ст. будынак храма быў драўляны. Састарэлы будынак, узведзены пры Янушы VI, у 1851 г. заменены на мураваны. Паставілі яго побач з мураваным вучэбным корпусам гімназіі, галоўным фасадам выходзіў ён на вуліцу Шырокую (былую Сенатарскую, цяпер – Камсамольскую). Гэты храм з гатычнымі рысамі сучаснікі называлі ўпрыгажэннем горада. Разам з будынкам гімназіі ён ствараў адзін з галоўных архітэктурных ансамбляў Новага горада.

Акрамя кальвінскай гімназіі, у справе асветы вялікае значэнне мела Слуцкая друкарня. З'явілася яна ў 1672 г. па ініцыятыве князя Багуслава Радзівіла (1620–1669). Але сапраўдным заснавальнікам і апекуном яе стаў назначаны князем губернатар Слуцкага і Капыльскага княстваў Казімір Клакоцкі (1625–1684). Пасля смерці Багуслава Радзівіла шмат дапамагала слуцкім пратэстантам яго дачка Людвіка Караліна (1667–1695), якая жыла ў Германіі. За яе кошт многія здольныя выпускнікі гімназіі працягвалі вучобу ва універсітэтах Заходняй Еўропы і Кёнігсберга. З іх ліку мы можам згадаць Іллю Капіевіча (1651–1714). Пасля Слуцкай гімназіі ён вучыўся ў Амстэрдаме, праславіўся як усходнеславянскі асветнік, перакладчык і кнігавыдавец, літаратар, навуковец і вынаходнік.




Будынак былой гімназіі

## Лютэране

Лютэране з'явіліся ў Слуцку раней за кальвіністаў, у 1530-я гг., калі слуцкім князем быў Юрый Сямёнавіч Алелькавіч (1492–1542). Князь быў зацікаўлены ў павелічэнні гарадскога насельніцтва, бо ў тыя часы Слуцк адбудоўваўся пасля разбурэнняў, выкліканых нападамі крымскіх татар, разрастаўся. Пасадская забудова займала ўсё большую тэрыторыю на захад ад ручая Бычок. Якраз там, на свабодных землях, за дарогай на Капыль (цяпер гэта вуліца Капыльская) лютэранам быў выдзелены пляц. У яго цэнтры разбілі плошчу, узвялі кірху. Спачатку плошчу называлі Саксонскай, што, несумненна, сведчыла пра тое, адкуль прыбылі ў Слуцк першыя лютэране. Пазней, калі нашчадкі першых лютэран асіміляваліся і ператварыліся ў карэнных жыхароў, плошча называлася Лютэранскай. У адрозненне ад кальвіністаў, лютэранамі пераважна былі мяшчане – рамеснікі, дробныя гандляры, людзі «інтэлігентных» і «інтэлектуальных» прафесій – цырульнікі, урачы, аптэкары. Напрыклад, першую ў Слуцку гарадскую аптэку, заснаваную Багуславам Радзівілам, утрымлівалі лютэране.

## Пачатак крызісу

Перыядам росквіту ў Слуцку пратэстанцкай культуры стала XVII ст. Але ў 1-й пал. XVIII ст. магутных апекуноў у слуцкіх пратэстантаў не стала – гаспадарамі краю сталі князі-католікі, прадстаўнікі нясвіжскай галіны роду Радзівілаў. А актыўная дзейнасць ў горадзе каталіцкіх манахаў стала прычынай змяншэння колькасці пратэстанцкіх вернікаў. Напрыклад, сын слуцкага губернатара-кальвініста Казіміра Клакоцкага – Геранім не толькі перайшоў у каталіцтва, але аддаў пад узвядзенне езуіцкага кляштара сваю сядзібу, перадаў ім усю, сабраную яго бацькам, бібліятэку, сам стаў езуітам і ў хуткім часе ўзначаліў слуцкі езуіцкі калегіум. Тым не менш, казаць пра ўціск і ганенні супраць пратэстантаў у Слуцку не прыходзіцца. Ілюстрацыяй таму могуць служыць звесткі, што слуцкі князь Геранім Фларыян Радзівіл сам нярэдка прысутнічаў на лютэранскіх набажэнствах, дзе любіў слухаць казанні на нямецкай мове.

Да пачатку XIX ст. Слуцк заставаўся даволі значным лютэранскім цэнтрам на абшарах былога Вялікага княства Літоўскага. Напрыканцы XVIII ст. лютэране складалі 3,3 % жыхароў горада – 105 чалавек, кальвіністаў было 547 чалавек. Але да 1852 г. лютэран засталося толькі 18 чалавек, а ў 1860-я гг. іх абшчына ўжо не згадвалася. У канцы XIX ст. агульная лічба слуцкіх кальвіністаў і лютэран была 49 чалавек – 0,3 % гарадскога насельніцтва.

Будынка лютэранскай кірхі не стала ў 2-й пал. XIX ст., хаця Лютэранская вуліца і Лютэранская плошча ў горадзе былі да пачатку XX ст.

Слабелі і пазіцыі кальвіністаў. З сярэдзіны XIX ст. гімназія ўжо знаходзілася адначасова ў падпарадкаванні і кальвіністаў, і дзяржаўных улад, а з 1868 г. стала цалкам дзяржаўнай, атрымала статус класічнай мужчынскай гімназіі.

Пасля рэвалюцыі рэфармацкі збор быў закрыты, апошні яго пастар Курнатоўскі, іншыя служыцелі, а таксама кальвіністы – прафесары Слуцкай гімназіі эмігравалі. Будынак храма ў 1925 г. быў прыстасаваны пад электрастанцыю, арган разабраны, архіў знішчаны. Падчас Вялікай Айчыннай вайны гэты будынак быў разбураны. Лютэранскую плошчу ў 1918 г. перайменавалі, цяпер месца былой плошчы занята сучаснай шматпавярховай забудовай.

## Новыя пратэстанты

На працягу 1910–1920-х гг. у Слуцку пачалі з'яўляцца прадстаўнікі новых рэфармацкіх плыняў, перш за ўсё – баптысты. Арганізавалася іх суполка. Можна думаць, што да іх далучыліся і нешматлікія нашчадкі слуцкіх лютэран і кальвіністаў. Захаваліся сведчанні, што свае першыя пасяджэнні баптысты праводзілі ў кальвінскім зборы. Доўгі час барацьба атэістычнай савецкай улады супраць рэлігіі была скіравана і супраць новых пратэстанцкіх напрамкаў.




Князь Мікалай Крыштоп Радзівіл Сіротка

Сёння ў горадзе існуюць чатыры афіцыйна зарэгістраваныя ў 1992 г. пратэстанцкія абшчыны. Разам з абшчынамі, размешчанымі на раёне, іх колькасць дасягае чатырнаццаці. Гэта прадстаўнікі Царквы евангельскіх хрысціян-баптыстаў, Царквы хрысціян веры евангельскай, аб'яднання абшчын хрысціян поўнага Евангелля і рэлігійнай абшчыны «Хрысціян-адвентыстаў Сёмага Дня». Звычайна абшчыны карыстаюцца малітоўнымі дамамі. Намаганнямі сяброў слуцкай гарадской абшчыны евангельскіх хрысціян-баптыстаў на вуліцы Якуба Коласа ў 1992 г. быў узведзены мураваны храм, які мае рысы раманскага стылю. Пры ім дзейнічае царкоўны хор, працуе бібліятэка, праводзяцца заняткі нядзельнай дзіцячай школы. Прэсвітэрам з 2000 г. выбраны Генадзь Ралько. Дзейнасць пратэстанцкіх абшчын, як і дзейнасць іншых рэлігійных аб'яднанняў, рэгулюецца прынятым у краіне Законам аб рэлігіі.

*Ігар ЦІТКОЎСКІ,*
*г. Слуцк*

---

[1] Зараз адзін з карпусоў Слуцкай гімназіі (створаны па праекце вядомага архітэктара К. Падчашынскага) выкарыстоўваецца не па прызначэнні. Улічваючы, што Слуцкая гімназія з'яўляеца найстарэйшай навучальнай установай краіны (390 гадоў існавання), галоўны рэдактар "КГ" прапанаваў Міністэрству адукацыі Беларусі і Слуцкаму райвыканкаму сумесна з Міністэрствам культуры Беларусі адшукаць сродкі для рэстаўрацыі і прыстасавання старога будынку гімназіі пад элітны вучэбны корпус, аднавіўшы інтэр'еры XIX ст. Мог бы выкарыстоўвацца і як аб'ект турызму.

Замест таго, каб прыслухацца да слушнай парады, улады Слуцка пры падрыхтоўцы да "Дажынак–2005" знеслі адзін з нямногіх ацалелых будынкаў XIX ст. – былой земскай бальніцы.

*Іван Панасюк у свой час 17 гадоў працаваў настаўнікам нямецкай мовы ў в. Велута Лунінецкага раёна. За час працы сам вывучаў гісторыю, побыт, звычаі і абрады тамтутэйшых мясцін і далучыў да краязнаўства сваіх вучняў.*

*Цяпер Іван Аляксеевіч выкладае у СШ № 2 г. Лунінца, але не толькі не забывае Велуты – ён прысвяціў ёй сваё даследаванне (сёлета школе будзе 120 гадоў, а вёсцы ў 2008 – 440). «Краязнаўчай газеце» даследчык раіць надрукаваць матэрыял з назвай, вынесенай у загаловак. Аўтар – былая яго вучаніца, цяпер настаўніца роднай мовы і літаратуры Ніна Наварыч (Кахові), маці 5 сыноў і дачкі. Прапануем увазе чытачоў урыўкі з яе працы.*

# Вяселле ў вёсцы Велута

## Сватанне

Калі сын называе імя сваёй каханай, бацькі[1] аднойчы ўвечары ідуць сватаць яе – «паляўнічы пусціў стралу, яна паляцела, а мы ўслед за ёю, і вось яна ў ваш домік-церамок уляцела. А ў гэтым церамочку, бачым, дзяўчына-красунька жыве. А ці ж рада ты нам?». Калі прыходзяць да згоды, то сваты дамаўляюцца пра час запоін.

## Запоіны

Пасля сватання ў хаце нявесты праходзяць запоіны. Дзяўчыну «запіваюць» да роду жаніха. Запоіны прызначаюць на нядзелю. Жаніх з бацькамі і бліжэйшымі сваякамі ідуць да нявесты . Калі заходзяць у хату, то моцна стукаюць кійком, каб маладая пачула і за печ не схавалася. Ад маладога нясуць гарэлку на ўсіх гасцей, а яго маці нясе свой гасцінец для нявесты (каб нявеста на другі дзень вяселля апранула гэтую сукенку). Маладая першая выходзіць да жаніха, каб у будучым верхаводзіць мужам. Для ўсіх гасцей падае руку і вітаецца, але на далоні вышыта насоўка, каб ведалі, што маладая жадае належыць іх роду, што руплівая, ночы не спала, палатно ткала, наметкі вышывала і дарагіх гасцей чакала. Госці рассаджваюцца за сталы дубовыя і добра падрыхтаваныя. Самыя ганаровыя месцы адводзяцца бацькам жаніха і тым, хто прыйшоў сватаць нявесту.

У час запоін пяюць песні, якія адносяцца да гэтага моманту. Вось песні такога характару:

*Прыбілася рыба к гату,*
*Да пусці сваце ў хату,*
*Ручанькі пагрэці,*
*Да маладое поглядзеці.*
*Ці хароша, ці наражана,*
*На пасадзе ды пасаджана.*
*Пасаджана под вокенцам*
*Накрыта полоценцам,*
*Пасаджана под паліцай,*
*Да накрыта рукавіцой.*

Перад тым, як разысціся дадому, гасцей маладога перавязваюць наміткамі, ручнікамі. Яны на талерку з жытам кладуць грошы – значыць плоцяць нявесце за яе руплівую працу, што прала, ткала, на сонцы бяліла, на ветры сушыла.

Акрамя гэтага, нявеста дае бацькам жаніха бутэльку з зернем жыта, коснікам чырвоным навязана. Гэта сімвал таго, што нявеста аддае ім сваю долю. Пасля яе распіваюць пры нараджэнні першага дзіцяці. Жыта рассыпаюць у сябе па двары, каб у двор прыйшоў дабрабыт і шчасце.

Вяселле прызначаюць праз тры тыдні пасля запоін, у залежнасці ад таго, як паспеюць падрыхтавацца.

Напярэдадні вяселля пякуць каравай.

## Выпечка караваю

На вяселле пякуць два караваі: адзін у нявесты, другі ў жаніха. Каравай выпякаецца ў форме сонца, круглы. Абрад выпечкі абодвух караваў аднолькавы. За якасць каравая адказвае хрышчоная маці, якую называюць старэйшай каравайніцай.

Каравай маладой адрозніваўся тым, што пяклі з цеста касу, а па краях кветкамі ўпрыгожвалі. Для каравая падрыхтоўвалі месца: века з-пад дзяжы, на века лажылі сена, медную капейку (5 ці 3), сыпалі жменю жыта, засцілалі вышытым ручніком, а потым ставілі каравай.

Яшчэ каравай дзяўчаты падвязвалі чырвонай і ружовай стужкай. Працуючы, каравайніцы ўвесь час пяюць песні, надаюць усяму святочнае, незвычайнае адценне.

*Удача, удача, як коровай удайса,*
*У чырвоную стужку ўбрайса*
*Каб каханне шчырае було,*
*А ў ружу – ружую стужку,*
*Каб добранька доля була.*

Пасля вынасу каравая ўсе садзяцца за сталы. Спяваюць песні, толькі не каравайныя. Каравайныя песні можна спяваць толькі пры выпечцы і ўпрыгожванні каравая і нідзе болей.

## Першы дзень вяселля

У жаніха і нявесты часцей на вяселле запрашаюць бацькі. Вяселле пачынаецца ў жаніха і нявесты асобна. Да жаніха яго род збіраецца крыху раней, чым да нявесты яе род, таму што ў нявесты вяселле не пачынаецца, пакуль не прыйдзе жаніх. У жаніха з ліку гасцей едуць хрышчоны бацька з хлебам і бутэлькай гарэлкі, павязанай чырвонай стужкай на запоінах. Старэйшы сват з гарэлкай (для таго, каб па чарачцы выпіваць, калі будуць дарыць). Другі сват нясе каравай, сваххі (сёстры, стрыечныя сёстры, цёткі), дружына (абавязкова нежанатыя сябры жаніха).

Усе госці жаніха, тыя, хто паедзе да нявесты, спачатку садзяцца за сталы. Бацькі маладога благаслаўляюць вяселле.

Хросны бацька бярэ хлеб, потым за руку жаніха і абводзіць яго тры разы па ходу сонца вакол стала, за якім яны сядзелі. Следам за жаніхом абходзяць стол і дружкі. У такім парадку яны выходзяць на вуліцу, дзе іх чакаюць машыны. Жаніха ў машыну саджае хрышчоны бацька.

У гэты час бацькі жаніха абходзяць тры разы машыны (маці абсыпае жытам, бацька нясе хлеб з соллю на ручніку).

Затым едуць да нявесты. Усю дарогу пяюць песні:

*Маці сына выправажала,*
*Да навукаю навучала:*
*Не пі сынку першое чаркі,*
*Ліні коню на грывоньку,*
*Шчо б грывонька да колом узышла,*
*Шчо б Марусенька сама прыйшла.*

## Нявесту апранаюць

Нявеста сядае на дзяжу, якая пакрыта аўчынай (каб у нявесты было столькі багацця, колькі шэрсці на гэтай аўчыне).

Убірае, прыхарошвае нявесту звычайна адна здольная дзяўчына, ад яе патрабуецца ўменне хораша прычасаць, апрануць ёй фату. У яе многа добраахвотных памочніц, таму нявесту апранаюць даволі хутка.

Увесь час гучаць песні, якія пяюць усе, хто знаходзіцца ў доме. Сама нявеста не пяе, але ўсе песні адрасаваны ей:

*Ой зялёнаю ружа блізко*
*к плоту стояла,*
*Да росою прыпала,*
*Да Марусенька ту росу брала,*
*Да росою ўмывалася,*
*К веньчанню выбіралася.*
*Ой выбірайса, да не чайса,*
*Там цябе поп обжыдае,*
*Цэркоўку одмыкае,*
*Свечкі запальвае.*
*Свечкі ясенькіе для цябе*
*молодзенькое.*

## Нявесту «дараць»

Спачатку дараць бацька, маці, потым усе астатнія. Старэйшы аб'яўляў, хто дорыць:

– Пане староста, пане пастаронні, шчо я буду казаць, молодых дарыць бацько, сто рублей золотых покладае, нашую молодую запомогае, дзякуй за такія дары.

– Дарыць маці своімі положна, начы не спала, прала, ткала, на сонцы бяліла, на ветры сушыла, дочку свою запомогае. Яшчэ жытлом, жыткою, веком доўгім, здороўем моцным, што б любіліса, плодзіліса, і нас, бацькоў не забывалі.

Кожны пры дарэнні жадаў маладым шчасця, сямейнага дабрабыту. Пры дарэнні нявесты пяюць песні:

*Ой дарце, мое цётухны дарэче,*
*Да воламі, ды коровамі,*
*Да чорнымі, ды овечкамі,*
*Да белымі, ды гусочкамі,*
*Да тонкімі намоточкамі.*

Як падарылі маладую, сваххі выкупляюць падушкі, пасцель, куфар маладой. Увесь пасаг нявесты едзе разам з ёй у той жа дзень. Сяброўкі нявесты, сваякі пяюць ёй развітальныя песні:

*Выграбай, матко, жар, жар,*
*Будзе тобе доченькі жаль, жаль.*
*Выграбай, матко, попел,*
*Мы твою, донечку ўхонім.*
*Ухонім да ручэнькамі,*
*Пов'язом конічэнькамі.*

З сабой нявеста вязе хлеб, талерку з жытам, на якую ёй дарылі грошы, лыжкі, чаркі, з якіх пілі маладыя; жыта, каб пасыпаць у доме жаніха. Калі нявесту пасадзілі на воз, дружкі пытаюцца ў яе:

– Марусечка, дзе ключы!

Яна адказвае:

– На гары ў аўсе! Каб выйшлі замуж за мною ўсе.

Бацькі нявесты абходзяць вазы з хлебам-соллю, абсыпаюць жытам.

Каля хаты жаніха маладых сустракаюць бацькі жаніха і іншыя сваякі. Маці жаніха трымае хлеб з соллю і карэц з мёдам, бацька – віно і чарку. Убачыўшы маці, сваххі пяюць песні каля ганку:

*Што ж гэто за зелле чырвонэ,*
*Насенне посеяла маленькое,*
*Да вырослo в'ялікэ,*
*Шчо ж гэто за дзіцятко,*
*Да шчо ж за розумное,*
*На двор з'язджало,*
*Добром сыпнуло,*
*Да з воза стало,*
*Да на колькі ўпало.*
*Чужую чужаніцу*
*Да мамою назвало.*

Маладыя кланяюцца бацькам жаніха тры разы. Маці, трымаючы хлеб, тры разы хрысціць іх і гаворыць: «Дай, Божа, нашым дзеткам долечку ўсякую познаці: і хлебовую, і солевую, і водзяную, здороўечка моцнага, лёсу шчаслівого, веку доўгого».

Бацька дае маладым па чарцы віна, а маці па лыжцы мёду. Віно не дапіваюць, а льюць цераз галаву высока, каб шчасцейко было, каб на вяселлі была «горка», а ў жыцці «салодка». Потым частуюць усю дружыну, пакуль мёд з рук маці не выкрадзе старэйшы дружок.

Бацькі з хлебам ідуць першыя, за імі маладыя. На парозе ляжыць кажух, далей маладыя праходзяць па белым палатне ў хату. Нявеста наперад сыпле тры разы жыта, а на брыль печы ложыць грошы і дзве лыжкі (грошы для сястрычкі жаніха, каб яна была ёй першая дарадчыца, а лыжкі ў знак таго, што яна ўжо ў іх сям'і).

Бацькі запрашаюць усіх за сталы. Гасцей, якія прыехалі за маладой, усаджваюць на ганаровые месца. Першую чарку выпіваюць маладыя з бацькамі жаніха і хрышчонай маці нявесты, якая цяпер суправаджае нявесту.

*Свякроў нявестку перапівае, перапівае і віншуе:*
*Будзь ты, нявехна, умна-разумна,*
*Умна-разумна ды шчаслiва,*
*Да папусці долю па майму полю,*
*А прыдолечку – па застоллю.*
*А здароўечко – па маю сям'іцу,*
*Каб мая ніва жыта радзіла,*
*Каб мая сям'іца здарова хадзіла.*

Пасля гэтага выпіваюць усе, чуюцца крыкі «горка», спяваюць песні, потым танцы.

## Маладога «дараць»

Першыя дараць бацькі. Благаслаўляюць маладых: «Жытлом – век пражыць у згодзе, павазе, узаемаразуменні, жыткого – здороўем моцным, веком доўгім, болей шчаслівой, каб вялося, каб былося – нас на старасць, бацькоў сваіх, не цураліся».

Нявеста дарыць падарункі бацькам, блізкім, родным.

**Ніна НАВАРЫЧ,**
*настаўніца беларускай мовы і літаратуры*





*На здымках з архіва Міколы КОТАВА: перапой на вяселлі (в. Лобча Лунінецкага раёна) і нявеста ў сучасным вясельным строі*

[1]Адметнасць. У іншых мясцінах жаніха да нявесты везлі сваты – звычайна паша- нотныя і гаваркія людзі.





# Працаўнік, эрудыт, кампанеец

*Сёлета, 15 мая, споўнілася б 70 гадоў САЧАНКУ Барысу Іванавічу, які нарадзіўся ў 1936 г. у в. Вялікі Бор Хойніцкага раёна ў сялянскай сям'і, дзе разам з ім было сямёра дзяцей (усе хлопцы). У час вайны яго вёска была спаленая (у полымі загінула 128 вялікаборцаў), а астатнія, з імі і сям'я Сачанкаў, вывезены ў Германію на сельскагаспадарчую працу. Вярнуўшыся ў 1945 г. дамоў, Б. Сачанка ў 9-гадовым узросце пайшоў у першы клас, а пасля заканчэння мясцовай сямігодкі працягваў вучобу ў Хойніцкай СШ. У 1955–1960-х навучаўся на журфаку БДУ, пачаўшы ў 1958-м працаваць у часопісе «Вожык». У 1960–1976 гадах – у часопісе «Полымя», у 1976–1986-х – сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, у 1986–1993 – у выдавецтве «Мастацкая літаратура», пасля да апошніх хвілін жыцця ў рабочым кабінеце – галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя».*



Сачанка-празаік заявіў пра сябе 50 гадоў таму, надрукаваўшы першае апавяданне «Плынь» у часопісе «Маладосць». Пасля былі публікацыі прозы ў часопісах «Беларусь» і «Полымя», на старонках розных газет. У 1960-м, у год заканчэння універсітэта, выдаў першую кнігу прозы «Дарога ішла праз лес», што пазначыла не толькі тагачасныя, але і будучыя яго тэмы, творчыя пошукі: адлюстраванне жыцця даваеннай, ваеннай і пасляваеннай вёскі, абвостраная ўвага да несправядлівасці, нялёгкай долі простага люду. Гэтае развілося ў другой ягонай кнізе «Барвы ранняй восені» (1961) і ў пэўнай меры вельмі смела на той час. Некаторыя крытыкі зусім не прызналі Сачанкавай навізны, убачылі ў яго творах не шчырасць і праўдзівасць, а... антысаветчыну. Яго жорстка крытыкавалі ў друку нават за тое, што ён апаэтызаваў высокія пачуцці, каханне – праўда, не жонкі і мужа, а дваіх сямейных Яго і Яе (апавяданне «Канапляны чад»), якія палюбіліся, знайшлі грэшнае, але радаснае зямное шчасце адно ў адным. Адпаведна, вось што вялікае значыць для Пісьменніка – не хлусіць. Можаш пісаць па-мастацку моцна, слабей, на гэта былі і будуць розныя водгукі, але фальш рана-позна пацерпіць крах. Нават і тады, калі яна па-новаму набірае сілу!

Б. Сачанка мужна працягваў быць верным рэалізму ў жыцці і ў літаратуры,ураўнаважана, часамі нават запаволена даследаваў вясковы побыт землякоў, іхнія характары, учынкі ў новых апавяданнях і аповесцях, а апавяданнем «Дзік-бадзяга», дзе заглыбіўся ў пазнанне чалавечага свету незвычайнай асобы, як тады жартавалі, «пачаў класікаваць». Нават несправядлівая і жорсткая крытыка не выбівала яго з каляіны: калі яму дапякалі за адлюстраванне «не ў тым ракурсе слаўнай сучаснасці», ён браўся за гістарычную тэму (аповесці «Варэйка золата», «Англіцкая сталь», «Дыярыуш Мацея Белановіча») альбо за нарысы («Зямля маіх продкаў») ці за пераклады з іншых моў. Пасталеўшы і ўжо не толькі вачыма дзіцяці, а і пануней асэнсаваўшы лёс землякоў ды ўсіх беларусаў у час Другой сусветнай вайны, ён шмат твораў прысвяціў гэтай тэматыцы (аповесці і раманы «Палон», «Пакуль не развіднела», «Аксана», «Чужое неба», трылогія «Вялікі Лес»).

Дасведчаны чытач не мог не заўважыць, што ў гэтым пераліку, апроч іншых твораў, няма ўпамінання аповесці «Апошнія і першыя». Пра яе трэба сказаць асобна: яна зрабіла і будзе рабіць гонар не толькі Б. Сачанку, але і ўсёй нашай літаратуры. Яшчэ ў 1960 гады аўтар напісаў названы твор, у якім расказаў пра тое, як фашысцкія акупанты ладзяць на беларускай зямлі свой «новы лад» – у помсце за партызанскія дзеянні паляць мірную вёску. Плачуць, просяць неба памагчы ў бядзе людзі, пакуль агонь не спапяляе іх, гінуць плён іхняй цяжкой, палітай потам працы, шматлікія матэрыяльна-духоўныя каштоўнасці, азмрочаныя прырода, птушкі і звяры... Вобразна амаляваныя людскія побыт, лад жыцця, радасці, якія так нечакана змяніліся бядой, нават трагедыяй па злой волі, шырокае выкарыстанне фальклорных матываў – усё гэта і іншае папярэднічала заяўленню, сцвярджэнню ў беларускай літаратуры так званай хатынскай тэмы, якую пазней пачалі ўжо развіваць многія пісьменнікі.

Затым было шмат іншых мастацкіх твораў, артыкулаў пра творчасць сусветных і беларускіх майстроў слова, шмат турбот у вяртанні да нашай чытацкай грамадскасці лепшых здабыткаў тых, хто апынуўся ў эміграцыі і, невінаваты ў цяжкіх грахах, лічыўся «адпетым буржуазным нацыяналістам, ворагам беларускага народа», хоць многія і за мяжой збераглі чалавечую пtriстойнасць, развівалі беларускае слова. Вялікую падтрымку аказаў Б. Сачанка і ў вяртанні твораў рэпрэсаваных пісьменнікаў (М. Гарэцкі і інш.), у справе публікацыі рукапіснай спадчыны Ларысы Геніюш. Урэшце, зусім кароткі час папрацаваўшы галоўным рэдактарам у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя», ён, маючы энцыклапедычныя веды, паспеў блаславіць многія выданні – у сэнсе праўдзівасці, дакументальнай грунтоўнасці – выданні, што яшчэ паслужаць і нашым унукам і праўнукам. Адно з іх – «Беларусь. Энцыклапедычны даведнік». Тыраж вялікага тома нібыта і не малы – 5 000, але сёння не знойдзеш яго ні ў якіх кнігарнях! Тут ён выдатна паказаў сябе як творцы і рэдактара: і сам пісаў сумленна і прыязна спрыяў друкаванцы сумленным. Дзеля агульнай карысці справы. Такая высакародная дадзена не кожнаму.

Вакол асобы Б. Сачанкі (зрэшты, як гэта часта бывае ў адносінах да яркіх, кампанейскіх, адкрытых з прыстойнымі людзьмі і асцярожнымі з хітрунамі ды залішне балбатлівымі) бытавала і бытуе шмат самых розных размоў – як з ухвалай, так і крытыкай. Нічога дзіўнага тут няма, бо ў кожнага з нас усё няпроста ды калі замахваешся на значныя рэчы, ідзеш да іх складана... Але можна шчыра прыкласці руку да грудзіны і сказаць: Барыс Сачанка ў сваёй разнастайнай творчасці, нават у самыя цяжкія часіны, сеўшы сам-насам з сабой і з усім светам за пісьмовы стол, тварыў сумленна, так, як дазваляў яго не малы талент. Асабіста я, ведаўшы Барыса Іванавіча не меней 30 гадоў, меўшы з ім мо не адну сотню шчырых гутарак, знаёмы амаль з усімі ягонымі творамі, магу сказаць толькі добрае слова. Тым больш, што ён паспрыяў мне ўпершыню надрукавацца ў часопісе «Полымя», выдаць першую кніжку (быў яе ўхвальным рэцэнзентам), трапіць на працу ў рэдакцыю «Полымя». Як мог, памагаў і іншым. На жаль, падарваны жыццёвымі нягодамі, зарана пакінуў гэты свет, літаратуру і энцыклапедычную справу, дзе мог яшчэ шмат чаго зрабіць.

*Генрых ДАЛІДОВІЧ*



*Вёска над Белым возерам (фота Юзафа Шыманчыка, 1937 г.)*



*Былая грыбаварня ў маёнтку Заблошчына на Вілейшчыне*

# Паэт знайшоў «Сваё неба»

***У сакавіку ў свет выйшаў зборнік вершаў «Сваё неба» паэта і барда з Вілейкі Алеся Наркевіча. Зборнік выйшаў за кошт самога аўтара і вельмі невялікім накладам. Затое матэрыял, які ўвабрала ў сябе кніга, – вялікі. Апублікаваныя як вершы, там і некаторыя песні Алеся, якія аматары бардаўскай песні маглі чуць не раз на адпаведных канцэртах і фестывалях.***

**Некаторыя таямніцы раскрывае сам Алесь Наркевіч.**

**– Раскажы, калі ласка, пра вершы, што ўвайшлі ў зборнік.**

**А.Н.** Гэта – частка старых вершаў і частка новых, калі так можна сказаць. Бо да новага адношу тое, што пісалася на працягу апошніх пяці гадоў.

**– Прыхільнікам паэзіі заўжды цікава ведаць, як паэты пішуць свае вершы. Цікавіць працэс нараджэння вершаванага радка. Як пішаш ты?**

**А.Н.** Як?.. Калі пішацца – то пішацца, а не – дык не... Некаторыя слупкі, радкі і нават словы ляжаць, чакаюць свайго часу, па пяць гадоў. А затым неяк сядзеш, і ў галаве ці паветры пачынае нешта круціцца, і верш дапісваецца.

**– Можа, у цябе ёсць нейкі паэтычны сакрэт, калі лепш працаваць?**

**А.Н.** Што да мяне, то працуецца лепш у самоце і адзіноце. Можаш дзе-небудзь сядзець, ісці, ехаць. Але галоўнае для мяне, каб не было побач суразмоўцаў.

**– Алесь, ці адчуваеш на сабе ўплыў каго-небудзь са старэйшых паэтаў? І ўвогуле, чыю паэзію любіш?**

**А.Н.** Падабаецца Купала, Законнікаў, малады Разанаў, раскручаны Хадановіч, які стараецца ісці ўпоравень з часам. Хоць апошнімі гадамі ўсё менш і менш чытаю паэзію – няма часу залегчы і чытаць. Можа, таму і не адчуваю на сабе нічыйго ўплыву. І свае вершы я, можа, нават назваў бы нефармальнымі, не фарматнымі.

**– У наш непаэтычны час, калі людзі мала чытаюць не тое што вершы, а мастацкую літаратуру ўвогуле, ці будзе твая кніга чытацца, як думаеш?**

**А.Н.** Вершы пішуцца, на мой погляд, не для таго, каб іх масава чыталі. Я ўсё сваё жыццё пішу не для каго-небудзь, а ў першую чаргу для сябе. Мае вершы – мае думкі. Надзеі, а зрэшты і задачы на тое, што мае вершы стануць суперпапулярнымі, няма. Канечне, хацелася б, каб з маімі думкамі знаёміліся. Бо кожны аўтар варты ўвагі. Іншая справа, наколькі высакаякасны яго «прадукт».

**– У цябе шмат вершаў прысвечана Беларусі. За што яе можна любіць?**

**А.Н.** За тое, што яна ёсць, і на ёй ёсць мы. Беларусь жа – гэта аснова нацыі. І нягледзячы на жыццё, у якім усё прыходзіць-сыходзіць, Беларусь застаецца. Яна была пры Сталіне, Брэжневе, таму будзе і заўжды.

**– Дзякую, Алесь.**

*Гутарыў Сяргей МАКАРЭВІЧ*

***Алесь НАРКЕВІЧ***

***

*Дзякуй Богу – Сакавік.*
*І душа крыху адтала.*
*А зіма гэта нямала*
*Папсавала мне крыві.*

*Нехта скажа: «Сэ ля ві».*
*За вясною хутка лета,*
*Хоць здаецца казкай гэта,*
*Але і лета знікнуць дні.*

*Быццам вір, зацягне вір.*
*Абляцець пялёсткі кветак.*
*І адчуеш – не збылося,*
*Зноў чакай з надзеяй лета.*

*З году ў год жыццё ліецца,*
*Як з парожняга ў пустое*
*І ўсё меней застаецца,*
*І не гэткае, не тое...*

***

*Як добра, што Ты ёсць.*
*Малітва, радасць, слёзы*
*І сонца, і вясна*
*Зліліся ў адно.*
*Як добра, што Ты ёсць.*
*І я іду на дно*
*Цудоўнейшага сну.*
*Разбэшчаны філосаф*
*Ў спрадвечнай мітусні.*
*Як добра, што Ты ёсць.*

***

*Бездапаможнасць хаваецца*
*за балбатаннем.*
*Адчай і роспач – за смех.*
*Каля нянавісці заўсёды блізка*
*каханне,*
*А ля цнатлівасці – грэх.*

*Праўда народзіць хлусню*
*бессаромную,*
*Злосцю раз'юшанай*
*згвалтаваная.*

*Усе ўрэшце для зямлі*
*будуць роўныя,*
*Смерцю аднолькава*
*ўшанаваныя.*





## Наш каляндар

180 гадоў Іасафату Пятровічу АГРЫЗКУ (Лепельскі раён, 1826–1890). У 1849 г. скончыў юрыдычны універсітэт са ступенню кандыдата права. Хутка дабіўся вялікага службовага поспеху ў міністэрстве фінансаў, але не працягнуў яго. У 1858 г. ён набывае друкарню і дабіваецца дазволу на выданне газеты «Слова» (на польскай мове), дзе асвятляліся зямельнае пытанне і праблемы асветы, унутрыпалітычнае жыццё заходнееўрапейскіх краін, выдае чатырохтомнік М. Дабралюбава, матэрыялы па геаграфіі і статыстыцы Віленскай, Гродзенскай губерній і інш. На пачатку 1859 г. газета была забароненая, а І. Агрызка пасаджаны ў Петрапаўлаўскую крэпасць. За яго заступіліся М. Някрасаў і І. Тургенеў.

Вышаўшы на волю, І. Агрызка пачаў выдаваць у Пецярбурзе літаратуру па гісторыі і культуры Беларусі (больш 100 назваў). У 1859–1860-х выдаў манументальны 8-томны збор законаў былой Рэчы Паспалітай – Volumina lequm, які актуальны і сёння: важная навуковая крыніца для вывучэння палітычнай і прававой думкі Беларусі, Літвы і Польшчы XIV–XVIII стст. Рыхтаваў да друку і выданне Статута ВКЛ, але яно ў сувязі з паўстаннем 1863 г. было затрымана.

М. Дабралюбаў, пазнаёміўшыся бліжэй з гісторыяй і культурай Беларусі і дзякуючы І. Агрызку, у адным са сваіх выдадзеных ім твораў пісаў з глыбокім спачуваннем: «Адносна беларускага селяніна справа даўно вырашаная: забіты канчаткова, так, што нават пазбавіўся выкарыстання чалавечых здольнасцяў». І тут жа падкрэсліваў нязгоду з такім становішчам: «Не ведаем, у якой ступені памылковае гэта меркаванне, бо не вывучалі спецыяльна беларускага краю, але паверыць яму, зразумела, не можам. Цэлы край вось узялі, ды і забілі, – як бы не так! Гэта таксама, як італьянцаў забілі, расслабілі, пазбавілі любові да радзімы і да свабоды!.. Паглядзіце цяпер на іх... Ва ўсякім разе, пытанне аб характарыстыцы беларусаў павінна хутка быць растлумачана працамі мясцовых (г.зн. беларускіх) пісьменнікаў». І дадаваў: «Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы».

Беларускі люд хутка і сказаў сваё слова, далучыўшыся ў 1863–1864 гадах да паўстання супраць нацыянальнага і сацыяльнага ўціску царызму. 14 лютага 1864 г. І. Агрызка быў арыштаваны і неўзабаве як адзін з актыўных удзельнікаў «бунта» прысуджаны да смяротнага пакарання. Пасля гэтае пакаранне замянілі на 20 гадоў катаргі. Яго не стала ў Іркуцку ў 1890 г.



*На старых лунінецкіх могілках*

# Сярод поля, сярод лесу

**Апавяданне-імправізацыя**

*Генрых ДАЛІДОВІЧ*

*(Працяг. Пачатак у № 18)*

Генік і Ганначка прапалвалі і прапалвалі грады, вывалі дружнае, невядома адкуль узніклае пустазелле, каб яно не глушыла тое, што яны садзілі.

Першая, часамі ўжо і ў траўні (маі) навальніца – як удзень, дык пры ахмурэнні, а потым пры ацемніванні, пасярод ку ажно счарнелае неба, плыве свежы подых, падаюць першыя цёплыя кроплі, прыпырсквае лёгкі дожджык, высвечваюцца першыя амаль бачныя маланкі і чуецца далёкі рахманы гром, а потым у гэтую часіну альбо пазней яны набліжаюцца, і вось ужо дзіўны агонь жагнае неба, а дзіўны грукат грыміць, а пасля хлынае дождж. Калі навальніца ўночы, то – перасцярожлівы пошум дрэў яшчэ з маладой лістотай, блакітнае бліскание ўвысі і, можа, першы грозны перуновы ўдар, ад якога кудысьці далёка коціцца рэха. Могуць быць першыя неспакойныя, перасцерагальныя шпуршкі прыгаршч вады ў шыбіны. Пасля той першай страшнай ночы прырода нібыта ўлягалася, ціш эла. Прыпякала, прыпарвала, а за тыдзень – трава па пояс, летняе рознакветце. Значыць, наступае часіна для сенакосу. У Амшарку і далей дастаюць загорнутыя ў розныя прамасленыя анучкі косы і пачынаюць кляпаць іх. Генік любоўна назірае, як бацька з пашанотай клаў на вострую бабку трошкі ўжо стоўчаную касу і не проста біў па яе вастрыі малатком, а выводзіў сваю музыку. Не кожны мог музыканіць – значыць, і не кожны здольваў дагледзіць Яе Вялікасць Сяляцкую Касу, якая за ўмелых руках вытварала цуды, калі выбрывала да карэньчыкаў траву і спрыяла назапасіць харч для жыццёдайных для селяніна Божых стварэнняў, якіх чамусьці вырашылі назваць жывёлінамі!..

## Лета

Для Геніка яно найперш запомнілася тым, што аднойчы ўдзень становіцца горача – значыць, трэба падымацца на світанні. Каб чым раней выгнаць на пашу карову, цяля і авечкі, далучыць іх да суседскіх, напасвіць да прыпёку, да нападу на жывёлу аваднёў і сляпнёў.

На хутарскі статак ёсць свой «камандзір» – пастух дзядзька Пятро. Акалечаны, адзінокі і аднавокі, не можа як след працаваць на гаспадарцы, дык з ранняй вясны да позняй восені кожны год наймаецца пасвіць статак, узімку (о, дзіва!) і адной рукой ды цурбэлкам другой майструе. Робіць – люба паглядзець! – цабэркі, бочачкі, маслабойкі, вокны – усё, хто што папросіць. Генік па калейцы (чарзе) бывае ў яго падпаскам. Тое, што трэба нехацця падымацца на досвітку, не бяда: пазней будзе ўцеха. Дзядзька Пятро – бывалы чалавек, служыў у польскай арміі, адбіваў у Польшчы напад немцаў, быў у палоне ў Германіі, пасля зведаў Сібір, дык ён, хоць звычайна маўчун, можа і ўмее шмат расказваць цікавага. «Я люблю пагаварыць з вашым старэйшым хлопцам, – не раз гаварыў той яго бацькам. – О то кемна слухае.» Ён яшчэ ўмеў паказаць якое птушынае гняздо, злавіць зайчыка ці вожыка, навесці на паляну з салодкімі суніцамі, на сівамохавы барок з красунамі-баравікамі. А якія вабныя былі раскладзеныя цяпельцы, смачнае сала, сасмажанае на ражончыку, спражанае калоссе жыта альбо спечаная ў прысаку бульба!

Лета – канечне ж, і сенакос. Люба паглядзець, як лёгка, хораша шахкае касой бацька – не спяшаецца, пасоўвае ўперад ногі марудна, але захоплівае шырока і ажно выцінае траву да зямлі. Скошаная, без каранёў трава хутка прывяльваецца, пачынае саладжава пахнуць. А калі ён з маці разварушыць яе грабільнам, то ўсё больш ад яе ідзе водарны сухі пах, становячыся сенам, каб хутка трапіць у гумно, у застаронак, і ўлегчыся там (якія пазней смачныя сагрэтыя і падгнілыя ў сене дзічкі!) Калі ўжо хадзіў у школу, бацька купіў і для яго невялікую касу, наладзіў па яго росце кассё і рульку. Смех і гора было ад той яго першай касцовай навукі: каса то зарывалася ў зямлю, то скакала паверсе травы, то пакідала шмат космаў. Бацька і смяяўся, і злаваў з-за яго няўмельства, а Генік плакаў ад роспачы. Прытуліўшы, суцешвала маці: «Любы мой касец! Не бядуй, навучышся, будзеш касіць лепш за бацьку». Налаўчыўся, у старэйшых класах школы на саўгасным лузе ішоў у мужчынскім гурце не апошні ў калейцы, але за бацьку лепш не спраўляўся. Ды і ў яго доўга быў непераможац, дзядзька Мікалай – стаць паперадзе яго ніхто не асмельваўся: «каб не падрэзаў пяткі». Наладзіўся Генік і раздзімаць мяхі ў кузні, зубіць сярпы, араць.

Лета гарачэе, пячэ. Ажно мітусіцца-пераліваецца воддаль паветра; а пасля цяжэе, тускнее і парыць. Авадні і сляпні проста даймаюць быдла. Яно «гізуе» – церпіць-церпіць крывапійцаў, а пасля ўжо не баіцца ні Пятровага вокрыку, ні яго доўгай пугі і сабакі, бяжыць дахаты з пашы. І не паслухмяна, ні на крок не збочваючы з дарогі, а сігае праз жыта, бульбу або грэчку.

Жыта вышэе і вышэе, шарэе, палавее і, як самае высокае на полі, гайдаецца ад ветру хвалямі. Найперш па ім відаць, як ад воблака, што засланяе сонца, бяжыць па зямлі цень, а калі сонца выплыве на несакаўны, прымлелы блакіт, то – побег святла па полі. Дзіўнае неба ў ясныя дні, калі па ім паволі, ледзь заўважна паўзуць лёгкія кучмы аблачын. Ляж на спіну, зірні ўгору: вунь статак кароў і авечак, сабака, воўк, які падкрадваецца да іх! Вунь абрыс дзядзькі Пятра! Праўда, прывіды тыя рухаюцца, расплываюцца і замест іх – штосьці казачна дзівоснае. Дзядзька Пятро кажа, што на небе можна ўсё ўбачыць, апроч Бога, а вось ён сам можа нагадаць вялікай галавою, высокім лобам, вялікімі носам і барадою, пранізлівым позіркам: «Чаму грашыш, раб мой? Маці часамі не слухаешся, употай курыш?» Аднойчы Генік і ўбачыў не зусім бялюткае, а крышачку падценена воблака – яно вылепілася ў галаву з тым аблічам. Спачатку здалося, што гэта – дзядзька Мікалай (яго баяліся ўсе хутарскія дзеці нават за тое, што ён па «скарзе»маці мог прыстрашыць: «Ну, калі ты такі неслух, то забяру цябе пасвіць маіх пчол!» Кожны ж знаў, што пчала балюча джаліць). Дык вось нейк тая нябесная галава зірнула яшчэ болей насуплена, чым, бывае, глядзіць дзядзька Мікалай, нават грозна. Аж страшна стала: Ён! Генік ускінуўся, сеў – а вакол знаёмая прастора, і ўсё спакойнае, лагоднае (не, не зусім усё ціхае, нешта вакол знаёма гумкае, стракоча і шапоча), дык і палягчэла ад таго, што ты жывеш, сядзіш зроднена найперш з зямлёй...

Салодкі пах грэчкі, першы ўзятак мёду. Зажынкі на калгасным полі. Пад'ехаў грузавік; барты яго апушчаны, на ім – жвавы чупрыністы баяніст у хромавых ботах, чорных портках і белай вышыванай кашулі, абапал яго – гурт прыгожых маладзіц у доўгіх белых, з чырвонай нашыўкаю сукенках. Звычайна строгі, сярдзіты, асабліва тады, калі цвярозы ці зусім п'яны, былы партызан, а цяпер старшыня калгаса (пазней дырэктар саўгаса) Кураглядаў лёгка ўзлазіць на грузавік, пазвоньваючы як у жменю ўзяць ордэнамі і медалямі на пінжаку і прамаўляе, заклікаючы «да бітвы за ўраджай, які будзе мацаваць сацыялізм, мір ва ўсім свеце». Пасля яго прамовы – бадзёрыя песні і танцы. «Лішне ўсё гэта, – шэпча Геніку маці, – трэба жаць, а не трылінькаць сярод белага дня». І вось жанкі пачынаюць жаць зробленымі Генікавым бацькам сярпамі (пазней пад'едзе і эмтэзсаўская жняярка), і самая прыгожая, таксама святочна апранутая, не босая, як усе жанкі, а ў сандалях дзяўчына (наша, хутарская! Генікава свячка, Пётрыкава Тэця!) падносіць Кураглядаву першы сноп. Той бярэ, бліза туліць красуню, цалуе, а пасля дае ёй пададзены яму нашым жулікаватым брыгадзірам карабок дарагіх («чыкулядных») цукерак.

Праз хуткі час на ржышчы ўсё большае і большае снапоў, а ад іх у паветры пахкі водар свежай саломы; жанчыны жнуць, жартуюць, кпяць з тых, найперш з дзяўчат, хто часта выпроствацца, каб параўняць спіну. Той-сёй з жанчын на полі з немаўлём – яно ляжыць у цяні ад мэндліка і час ад часу цененька падае незадаволены голас, пакуль не абхопіць губамі матчын смочак. Генік з маці жнуць амаль наперадзе ўсіх, увішнейшая толькі цётка Гэля, яе нікому не ўдасца перагнаць (аднойчы сярод дня зусім нечакана надарыцца навальніца, жанчыны пахаваюцца ад дажджу пад мэндлікамі, і ў той, дзе стулілася самая рупная жняя, майстрыха на ўсе рукі, маці шасцярых дзяцей, смаляне маланка і заб'е яе, нешчаслівую, і малодшыя яе дзеці зведаюць цяжкую паўсіроцкую долю). Жнеі за дзень натомяцца, але і вясковыя, і хутарскія ўвечар разыходзяцца з поля з жартамі і песнямі. Тады на хутарах не было тэлебачання, а ў многіх і радыё, дык у вольныя часіны дзяўчаты і маладыя жанчыны любілі часта збірацца разам у чыёйсьці вялікай хаце, скублі пер'е, ткалі (увосень), жартавалі і спявалі-спявалі. Праўда, не зусім весела пра жаночую долю.

*(Працяг будзе)*

## Сем цудаў Беларусі

*Аляксей ШАЛАХОЎСКІ:*

1) праспект Незалежнасці ў Мінску;
2) Барыса-Глебская (Каложская) царква ў Гродне;
3) Нацыянальны тэатр імя Я. Купалы;
4) Нясвіж;
5) Камянецкая (Белая) Вежа;
6) Сафійскі сабор у Полацку;
7) творчая спадчына беларускіх пісьменнікаў.

*Сяргей ПАНІЗЬНІК:*

1) фальклор (і ў першую чаргу ўнікальныя валачобныя песні);
2) шлях з Грэкаў у Варагі, на якім пасялілася Беларусь;
3) Полацкая дзяржава-«імперыя» Усяслава Чарадзея;
4) Герб «Рыцер збройны на коне з мечам» і сакральны сцяг продкаў;
5) Барысавы камяні (і Рагвалодаў камень);
6) Крывіцкая Грамата 1229 г. у Рыгу, дзе ўпершыню зафіксаваны асаблівасці нашага маўлення;
7) помнік літары «Ў» у Полацку.



*Фотамастацтва Леаніда БАРОЎСКАГА*

**Шаноўныя чытачы, прапануем вашай увазе крыжаванку нашага пастаяннага аўтара Лявона Целеша аб знакамітых людзях, чые лёсы звязаны з Беларуссю.**

### Уздоўж:

**7**. Адзін з асноўных напрамкаў хрысціянства. **8**. Адсутнасць рэфлексаў (мед.). **10**. Найвышэйшая каштоўнасць беларускага народа. **11**. Беларускі вынаходнік. У 1825–1829 гг. распрацаваў праект падводнага карабля. Ураджэнец цяперашняга Чэрвеньскага раёна. **12**. Матэматык, астраном, геафізік, даследчык Арктыкі. Герой Савецкага Саюза. Узначальваў палярныя экспедыцыі на ледаколах «Сібіракоў», «Георгій Сядоў» і экспедыцыі на паўночны полюс. Ураджэнец г. Магілёва. **15**. Глыбіня апусканя судна ў ваду (спец.). **18**. Адзінка масы сыпучых рэчаў ў рознічным гандлі ВКЛ. **19**. Герой Савецкага Саюза, генерал-маёр. У часы ВАВ камандаваў кавалерыйскім корпусам. Загінуў у баі пры абароне Масквы. Ураджэнец Бешанковіцкага раёна. **20**. Імя вядомага амерыканскага і беларускага спевака Андрусішына (Данчыка), аднаго з найбольш яркіх сучасных выканаўцаў беларускай песні ў ЗША і Канадзе. **21**. Гісторык, бібліёграф, грамадскі дзеяч, доктар геалагічных навук. Аўтар прац па гісторыі Беларусі. Жыве ў ЗША. Ураджэнец г. Мінска. **25**. Геолаг, мінеролаг, удзельнік вызваленчага руху на Беларусі. Даследчык Чылі. Яго імем названы мінерал, фіялка, хрыбет у Андах, устаноўлены помнік у Сант-Яга. Ураджэнец Карэліцкага раёна. **26**. Выдатны рускі кампазітар XIX ст. Аўтар опер «Жыццё за цара» («Іван Сусанін»), «Руслан і Людміла». Паходзіў са старажытнага беларускага шляхецкага роду герба «Тшаска». **27**. Імя беларускага паэта, празаіка, мастака Каганца, які нарадзіўся ў г. Табольску, калі бацькі былі ў ссылцы. Радзіма бацькоў яго – Койданаўшчына (Дзяржыншчына). **30**. Вядомы рускі пісьменнік. Аўтар аповесці «Пунсовыя ветразі», раманаў «Бягучая па хвалях», «Бліскучы свет». Нарадзіўся ў Кіраўскай вобласці, у сям'і ссыльнага ўдзельніка паўстання 1863–1864 гг. на Беларусі. **32**. Нямецкі дыпламат, падарожнік канца XVI – пачатку XVII стст. **33**. Пятля на канцы альбо пасярэдзіне троса, якая надзяецца на матчу (марск.). **34**. Вядомы савецкі кампазітар. Аўтар 15 сімфоній, балетаў «Залаты век», «Светлы ручай». Продкі яго паходзяць з Вілейшчыны. **35**. Выдатны рускі кампазітар, піяніст, дырыжор, вучань Рымскага-Корскава. Аўтар опер «Салавей», «Маўра», «Цар Эдзіп», балетаў, сімфоній і інш. Паходзіў са старажытнага шляхецкага роду герба «Суліма» ВКЛ.

### Упоперак:

**1**. Вядомы рускі паэт, аўтар паэм «За даллю – даль», «Васіль Цёркін». Прысвяціў многія вершы Беларусі. Бацька паэта нарадзіўся на Міншчыне. **2**. Травяністая расліна з дробнымі зеленаватымі ці пурпурна-чырвонымі кветкамі. Іншая назва – амарант. **3**. Пірог, які выпякаюць да Вялікадня. **4**. Сярэбраная ці білонная манета ВКЛ і Польшчы, адна з найбольш пашыраных на Беларусі ў сярэдзіне XVI – пачатку XVIII ст. **5**. Выдатны геолаг, географ, падарожнік XIX ст. Даследчык Сібіры. Імем якога названы горы ва Усходняй Сібіры. Ураджэнец Віцебшчыны. **6**. Вядомы мастак, аўтар партрэтаў Скарыны, Купалы, Мальдзіса, Райніса, складальнік кнігі «Мінск на старых паштоўках», прадстаўнік беларускай дыяспары ў Латвіі. Ураджэнец Гродзеншчыны. **9**. Найбольш распаўсюджаная на Віцебшчыне назва азёр (13 азёр). **13**. Маршал Савецкага Саюза, двойчы Герой Савецкага Саюза. Удзельнік абарончых баёў пад Мінскам, Магілёвам, Сталінградскай, Курскай бітваў. Ураджэнец Горацкага раёна. **14**. Лётчык-касманаўт СССР, двойчы Герой Савецкага Саюза, генерал-палкоўнік авіяцыі, ураджэнец Крупскага раёна. **16**. Вядомы рускі акцёр шырокага творчага дыяпазона, народны артыст СССР. Беларус па паходжанні. Нарадзіўся ў г. Вільні. **17**. Травяністая расліна сямейства злакаў. На Беларусі расце на пясчаной глебе, можа выкарыстоўвацца для замацавання пяскоў. **22**. Рускі паэт, перакладчык, аўтар зборнікаў «Я іду», «Воля». На рускую мову пераклаў «Песню пра зубра» М. Гусоўскага. Нарадзіўся ў г.п. Бялынічы. **23**. Старажытнарускі пісьменнік і гісторык канца XI – пачатак XII ст. Складальнік «Аповесці мінулых гадоў». Яго творы здаўна былі шырока вядомы на Беларусі. **24**. Вядомы рускі пісьменнік са старажытнага шляхецкага роду герба «Радван». Аўтар раманаў «Ідыёт», «Браты Карамазавы». У Іванаўскім раёне ёсць літаратурна-краязнаўчы музей гэтага пісьменніка. **28**. Гарадскі пасёлак у Гродзенскай вобласці, дзе правяла апошнія гады жыцця і пахавана вядомая беларуская паэтэса Ларыса Геніюш. **29**. Запас, адкуль чэрпаюцца новыя сілы, рэсурсы. **31**. Рыбалоўная прылада ў выглядзе сеткавай камеры, нацягнутай на драўляны каркас. **33**. Украінскі дзяржаўны дзеяч, з беларускага шляхецкага роду герба «Навіна». Аўтар першай украінскай канстытуцыі. У гонар яго імя названы аэрапорт у Парыжы. Ураджэнец Ашмянскага павета (цяпер Вілейскі раён).



## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

**(Пачатак у № 1 за 2003 г.)**

**ВЕЛЯМІЧЫ** – тры паселішчы і два бескурганныя могільнікі (I ст. да н.э. – I ст. н.э.) зарубінецкай культуры каля в. Велямічы Столінскага раёна, ва ўрочышчах Турско, Пугачэнец (тут выяўлены рэшткі былых жытлаў) і каля хутара Дуброўка.

**ВЕНЖЫК ЯКУБ** – жывапісец XIV ст., родам з беларускіх зямель. Як вядома, вялікі князь ВКЛ Ягайла, стаўшы польскім каралём, не адракаўся ад усяго роднага, у тым ліку і ад беларускай мовы, культуры. Адпаведна, запрасіў да сябе, у Кракаў, Я. Венжыка, які жыў там каля 10 гадоў і адным з першых намаляваў партрэты Ягайла, а таксама шмат жанравых і гістарычных карцін, абразоў.

**ВЕРАБЕЙ** – даўні беларускі народны танец, што быў з дзвюх частак: першая спакойная, музычны памер трохдольны, другая – гарэзная, памер 2/4. Яго аднавіў і творча абагаціў І. Буйніцкі як кругавы танец з падскокамі, што імітавалі верабʼіную хаду. Цяпер выконваецца рэдка.

**ВЕРАНДА** (англ. ад інд.) – невялікая, звычайна з абчаса ных слупкоў, дошак і акон, з падмуркам і ганкам прыбудова да дома з боку ўваходных дзвярэй. Вокны, паддашкі звычайна маюць самыя розныя дэкаратыўныя ўзоры, што спрые верандзе ўпрыгожыць агульную будыніну. Ёсць народная прымаўка: «Дом без веранды, што жанчына без грудзей».

**ВЕРАС ЗОСЬКА** (сапр. Сівіцкая Людвіка Антонаўна, па мужу Войцік; 1892, г.п. Мядзыбаж Ляціча́ўскага раёна Хмяльніцкай вобл. – 1991) – беларускі дзеяч культуры, пісьменніца. Скончыла прыватную жаночую гімназію ў Гродне (1912), агародніцка-пчалярскія курсы ў Варшаве (1914). З 1909-га па 1913-ы брала ўдзел у Гродзенскім гуртку беларускай моладзі, што абʼядноўваў навучэнцаў школ і гімназій і спрыяў развіццю беларускай мовы і культуры (распаўсюджвалі сярод насельніцтва кнігі, ладзілі вечарыны і спектаклі, выдавалі альманахі і інш.). У 1916–1917-х з М. Багдановічам працавала ў Мінскім аддзеле Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Брала ўдзел у рабоце Усебеларускага снежаньскага з'езда 1917 г. у Мінску (вяла пратаколы, захавала асобныя тагачасныя дакументы). З 1923-га па апошні дзень жыцця жыла паблізу Вільні.

На беларускай мове пачала друкавацца ў 1911 г. у «Нашай ніве» пад псеўданімам Мірко. У 1924 г. выдала «Беларуска-польска-расейскі-лацінскі батанічны слоўнік», выдала за свой кошт першы зборнік вершаў М. Машары (1928). Рэдагавала ў Вільні дзіцячыя часопісы «Заранка» (1927–1931) і «Пралескі» (1931–1935), сельскагаспадарчае выданне «Беларуская борць» (1934–1938). На працягу гэтых дзесяцігоддзяў надрукавала шмат вершаў, абразкоў і апавяданняў, артыкулаў на самыя розныя тэмы. Для дзіцячых тэатраў пераклала некалькі п'ес з іншых літаратур. Напісала ўспаміны пра М. Багдановіча, У. Галубка, Ядвігіна Ш. і інш.

### Смех і горыч

*У вёску прыехаў адзін яснавяльможны пан па прозвішчы Міхалоўскі з Варшавы, каб пашукаць сляды сваіх продкаў, якія жылі тут да рэвалюцыі 1917 года. Сабралі мы старых людзей і сталі іх пытаць: ці памятаюць яны тых Міхалоўскіх?*

*– А як жа, – кажа адзін дзед. – Памятаю. Ой жа хітры быў той пан – Міхалоўскі!*

*– Чаму ж хітры? – здзівіўся нашчадак.*

*– Дык ён жа, як толькі падыйшла да нас Чырвоная Армія, уцёк у Варшаву, – так патлумачыў вясковец і з хітрынкаю ўсміхнуўся.*

**Запісаў У. Гілеп у 1999 годзе, в. Дражна Старадарожскага раёна**



*Маладзечанская кафля (XVII ст.)*

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач». Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26.
E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 04.05.2006.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0056609 ад 27.02. 2004 г.)
Заказ 706.
Тыраж 1480 асобнікаў.